# З надыходзячым Новым годам!

**Выдавец:**
ІП Уладзімір Скрабатун, пасведчанне №1156 ад 23.04.2004 г., выдадзена Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер, выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 52 (352) 28 снежня 2006 года. | Кошт 600 рублёў


Глыбокае ў апошнія дні адыходзячага 2006-га года.

*Фота Ул. Скрабатуна*

Глыбоцкі раён

# Запэцкалі гонар службы

■ Чэслаў Якубовіч

**Адразу чацвёра былых полацкіх міліцыянераў паўсталі ў судзе Глыбоцкага раёна па ўзбуджанай супраць іх крымінальнай справе.**

Два гады таму летам аператыўнікі на беразе ракі Палата ў Полацку затрымалі па падазрэнні ў крадзяжы двух братоў, адзін з якіх у той дзень святкаваў свой 27 дзень нараджэння. Потым у аддзеле міліцыі падчас допыту ў присутнасці намесніка начальніка аддзела крымінальнага вышуку, па паказаннях міліцыянераў, хлопец быццам бы пачаў буяніць, лаяцца. Людзі ў пагонах быццам спрабавалі яго супакоіць, надзелі кандалы, але затрыманы страціў прытомнасць і неўзабаве заціх назаўсёды. Але праведзеная потым судмедэкспертыза выявіла, што сэрца спынілася і смерць наступіла невыпадкова, бо па галаве хлопца ў цемечка быў нанесены моцны ракавы ўдар. На судовым пасяджэнні, хто гэта зрабіў, так і не высветлілася. Ніхто з абвінавачваемых не прызнаў сваёй віны. У выніку суд прызначыў траім былым міліцыянерам зняволенне на 5 гадоў кожнаму. Аднаму прысудзіў 4 гады пазбаўлення волі, усім асуджаным інкрымінаваў перавышэнне службовых паўнамоцтваў. Па рашэнню суда Полацкі ГАУС абавязаны выплаціць маці загінуўшага 7 мільёнаў рублёў.

Браслаўскі раён

# Ралі па азёрнаму краю

■ Станіслаў Раманчук

**Другі год запар жыхары Браслаўскага раёна сталі сведкамі незабыўнага відовішча, аўтаралі "Браслаў –2006" і адначасова чарговага этапу розыгрышу Кубка Беларусі сярод прафесійных гоншчыкаў па ралі-спрынту.**

Призавы фонд гэтага турніру склаў 3 тысячы долараў. Яго аспрэчвалі 26 экіпажаў аўтамабіляў гоначных марак з Беларусі, Расіі і Літвы. Яны на працягу двух выхадных дзён 16 і 17 снежня спаборнічалі ў хуткасці і майстэрстве імкліва ездзіць па спецыяльнай трасе працягласцю болей за 300 кіламетраў. На гэтым маршруце ад вёскі Плюсы хуткасны і самы відовішчны ўчастак складаў 120 кіламетраў. Пэўныя адрэзкі дарогі зусім перакрываліся для пабочнага руху і тады вадзіцелі-асы паказвалі проста феерычную язду. Акрамя дзённых маршрутаў ім прыходзілася пераадольваць і начныя спецчасткі. На другі дзень спаборніцтваў пілоты паказалі на што яны здольныя, пераадольваючы спецыяльны ўчастак працягласцю 18 кіламетраў, якога яшчэ не было на такіх гонках у краіне. На Браслаўшчыну аўтамабілістаў вабіць таму, што тут выдатная канфігурацыя маршрутаў і проста прыгажосць азёрнага краю. Адзінае, аб чым шкадавалі ўсе – гэта адсутнасць снегу.

Пастаўскі раён

# На ўсіх нацыянальных каналах

■ Кастусь Александровіч

**Здымачная брыгада тэлеканала АНТ цэлы дзень працавала на мінулым тыдні ў Пастаўскім раёне на здымках штодзённай праграмы "Контуры".**

Сталічных тэлевізіёншчыкаў зацікавіла лепшая турыстычная праграма знаходжання на Беларусі "На госці да ўладара зімы, Зюзі Паазерскага", якую летась прыдумаў і арганізаваў мясцовы цэнтр турыстычных паслуг. У ваколіцах вёскі Прруднікі быў зняты сюжэт пра фальклорнага бацьку Дзеда Мароза і ягоную сядзібу, які паказалі ў нядзельным эфіры. Акрамя гэтага самога Зюзю, ягоных паплечнікаў: чараўніцу Зіму, Завею, бабу Напасцю, Ледавіка, Агнявіка потым запрасіў на здымкі ў Мінск канал "Сталічнае тэлебачанне", а 27 снежня па Пастаўшчыну прыязджала творчая брыгада тэлеканала "Лад", каб расказаць аб яркіх прадстаўленнях у гэтым маляўнічым кутку. Першы канал Беларускага тэлебачання вечарам 24 снежня арганізаваў прамую трансляцыю святочнага Каляднага богаслужэння з касцёла святога Антонія Падуанскага ў Паставах. Дарэчы, у самім райцэнтры вырашана стварыць уласную тэлекампанію "Паставы ТБ", бо ў горадзе толькі абанентаў двух сетак кабельнага тэлебачання ўжо больш за 4500 сем'яў.



## Надвор'е ў Глыбокім http://www.rp5.ru

| | чацвер 28.12.06 | | | | пятн.29.12.06 | | суб.30.12.06 | | нд.31.12.06 | | пн.1.01.07 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 2:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 14:00 | 2:00 | 14:00 | 2:00 | 14:00 | 2:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Ціск, мм | 745 | 742 | 741 | 741 | 742 | 749 | 754 | 758 | 755 | 746 | 744 |
| Тэмпература, °С | +2 | +3 | +3 | +3 | +1 | -4 | -7 | -4 | -4 | -1 | +1 |
| Вільготнасць, % | 94 | 91 | 89 | 92 | 94 | 87 | 87 | 90 | 94 | - | - |
| Вецер м/сек | 3 6 | 3 7 | 3 7 | 3 6 | Пн-3 5 | Пн-3 4 | Пн-3 3 | Пд-3 3 | Пд 5 | Пд-3 6 | 3 3 |

# Навагоднія спадзяванні



**Пётр Кнырко**, рыбалоў-аматар, індывідуальны прадпрымальнік, прадавец рыбалоўных прылад.

**Кар.:** Якія пажаданні і спадзяванні Вы ўскладваеце на новы 2007 год?

**П.К.:** Якія спадзяванні? Адразу і не скажаш…

**Кар.:** Вы ж – рыбалоўаматар! Можа пажадаеце, каб азёры найхутчэй пакрыліся лёдам з пачаткам 2007 года? Дый, хутчэй, на лёд, на рыбалку!

**П.К.:** Навошта тая зіма! Я скажу так: абы яе зусім не было. Рыба і так добра ловіцца на бляшню!



**Статута Іна Аляксандраўна:**

Чакаю змен да лепшага, жадаю ўсім здароўя, дабрабыту, радасці.



**Аляксандр Мароз**, студэнт Маладзечанскага тэхналагічнага тэхнікума:

Якія спадзяванні і пажаданні? Зусім простыя і зразумелыя… Каб 2007-мы год быў лепшы за 2006-ты, і лепшы за ўсе папярэднія, якія былі ў маім жыцці!



**Алег і Лілія Аніка:**

Чакаем лепшага жыцця, каб у дзяцей было ўсё добра, былі здаровыя ўнукі, каб не забывалі сваіх родных мясцін.



**Васіль Вітальевіч Бухараў**, пенсіянер МУС, садавод-аматар:

Я буду не шматслоўным. Пажаданні і спадзяванні самыя звычайныя: міру, стабільнасці, з аптымізмам глядзець у будучыню.



**Юрый Чайка**, прадпрымальнік, г. Наваполацк:

Самыя простыя пажаданні! Здароўя, шчасця і дабрабыту! Каб квітнела наша фірма.



**Аня Шаура (студэнтка) і Сяргей Трухоўскі:**

Лепшага жыцця, кахання, здароўя і дабрабыту як сабе асабіста, так і іншым. Віншуем усіх з Новым годам, каб ў Новым годзе ніхто на справе "не быў "свіннёй".

# Дзень за днём

**Яшчэ напярэдадні каталіцкіх Каляд па усёй краіне запрацавалі ёлачныя кірмашы, бо нельга ўявіць галоўныя святы без свежай, пахнучай водарам лесу ёлкай. Святкаваць надыход 2007 года па рашэнню ўрада беларусы будуць тры дні запар, а працаваць у суботу 30 снежня.**

**Да апошніх дзён адыходзячага ў гісторыю года заставалася незразумелай сітуацыя з коштам расійскіх энерганосьбітаў для Беларусі.**

## Перамовы тыдня

Настолькі складанымі і працяглымі аказаліся апошнія беларуска-расійскія перамовы ў Маскве, што там Прэзідэнт А. Лукашэнка нават не паабедаў і адмяніў свой удзел у запланаваным хакейным матчы. Упершыню бюджэт Саюзнай дзяржавы быў прыняты да пачатку фінансавага 2007 года. Але гэта не галоўны вынік восьмай з пачатку года сустрэчы лідэраў Беларусі і Расіі, а атрымоўваецца, што з расіянамі ўсё цяжэй дамаўляцца па самых актуальных для нашай краіны пытаннях, бо акрамя дыпламатычных выказванняў аб канкрэтных дамоўленасцях нічога не паведамлялася працяглы тэрмін.

## Даручэнне тыдня

Па выніках чарговай нарады з членамі рэспубліканскага савета рэктараў ВНУ А. Лукашэнка выдаў распараджэнне па распрацоўцы новых крытэрыяў па аплаце працы прафесарска-выкладчыцкага складу і па падтрымцы лепшых выкладчыкаў. Беларускі лідэр таксама даручыў Міністэрству адукацыі Беларусі пераглядзець змест тэставых заданняў і сістэмы ацэнкі вынікаў выпрабаванняў ведаў школьнікаў. На нарадзе ўздымаліся пытанні аб складанасці і перагружанасці школьных праграм, Прэзідэнтам дадзены даручэнні асцярожна падводзіць у гэтай галіне розныя рэфармаванні.

## Заява тыдня

Практычна на безальтэрнатыўнай аснове пройдуць у Беларусі выбары мясцовых Саветаў, бо конкурс патэнцыйных кандыдатаў на месцы народных абраннікаў складае усяго 1.1 чалавека на мандат. Пэўнае саперніцтва чакаецца на выбарах толькі ў Мінску, асобных акругах, як заявіў аб гэтым сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік. Усяго ж па краіне будуць выбраны 22658 дэпутатаў розных узроўняў і фактычна вынікі галасавання ўжо прадвызначаны, паколькі конкурсу ў большасці Саветаў зусім няма.

## Ініцыятыва тыдня

Напрыканцы снежня ва ўсіх гарадскіх і раённых аддзелах міліцыі Віцебскай вобласці прайшоў тыдзень адкрытых дзвярэй. Яго мэтай было наблізіць супрацоўнікаў праваахоўных органаў да людзей, паказаць, як яны працуюць, якімі клопатамі жывуць. У падраздзяленні ўнутраных спраў запрашаліся вучні падшэфных школ, юрыдычных класаў, моладзь з ліку кандыдатаў на службу ў міліцыю, дружыннікі і проста ўсе жадаючыя, якім паказалі разводы міліцыянераў перад заступленнем на службу. У абласным цэнтры гарнізонны развод нарадаў быў праведзены на адной з галоўных плошчаў Віцебска.

## Прызнанне тыдня

Ва ўрачыстай абстаноўцы ў Полацкім райвыканкаме прайшло ўшанаванне 82-гадовага жыхара вёскі Сяльцо Аркадзя Каланда з нагоды ўзнагароджання яго адразу двума баявымі ардэнамі Славы. Ветэрана мабілізавалі на фронт у 1944 годзе ва ўзросце 20 гадоў і ў тым жа годзе ён двойчы па-геройску вызначаўся ў баях. Узнагароды воіну не ўручылі, бо пасля раненняў яго палічылі загінуўшым. Дарэчы, у тых баях выратаваў сына ад смерці яго бацька, а унучка ветэрана дамагалася праўды, перапісваючыся з адпаведнымі інстанцыямі.

## Трагедыі тыдня

Пасля чарговага п'янага застолля ў пакінутым гора-бацькамі доме ў вёсцы Старая Будаўка Талачынскага раёна падчас пажару на ложку загінула двухгадовая дзяўчынка. Пасля здарэння яе п'яныя тата і мама наогул зніклі. Страшнае здарэнне зафіксавана ў Самарскай вобласці Расіі, дзе грузавы аўтамабіль на хуткасці ўрэзаўся ў аўтобус "ПАЗ", які перавозіў дзяцей. У выніку сутыкнення адзін вадзіцель і пасажыр загінулі, яшчэ 13 чалавек атрымалі сур'ёзныя траўмы. Міліцыя пачала высвятленне ўсіх абставін гэтага дарожнага інцыдэнту.

## Знаходка тыдня

Ва Украіне мясцовым археолагам удалося адшукаць самае старажытнае сведчанне існавання хрысціянства на тэрыторыі СНД. Вучоныя знайшлі пахаванне з двух склепаў, дата ўзнікнення якіх адносіцца да III-IV стагоддзяў нашай эры. У адным з іх знайшоў свой апошні прытулак вядомы дзеяч той пары Арыстоп. На еўрапейскім кантыненце ўсяго налічваецца менш за дваццаць сведчанняў існавання ранняга хрысціянства і падобных пахаванняў.

## Дзікунства тыдня

Пасля праведзенай судмедэкспертызы міліцыя ўстанавіла, што ў горадзе Жодзіна палюбоўнік мамы трохгадовай дзяўчынкі катаваў малую на працягу амаль двух месяцаў. Пасля чарговых такіх разборак здарова бугая з дзіцём, урачы "хуткай дапамогі" зафіксавалі смерць малой ад кровазліцця ў мозг і ўтварыўшыхся там ад пабояў гематом. Пракуратура Мінскай вобласці занялася гэтай справай і перакваліфікавала артыкул крымінальнай справы на новы "забойства". У любым выпадку дзіўна, што маці не заступілася за свае дзіця, з якога здзекаваліся такім жорсткім чынам.

## Здарэнне тыдня

Адразу чатыры жалезабетонныя пліты ўпалі ў ваду з пакрыцця аўтадарожнага моста праз раку Віхра Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. На шчасце, ніхто з людзей у момант абрушэння канструкцыі па прычыне зносу драўляных апор не пацярпеў. Вёска Чырвоны Бераг паблізу гэтай пераправы паціху памірае, жыццё цепліцца толькі ў трох хатах, дзе жывуць 4 пенсіянеры, а летам - дачнікі ў некалькіх дамах. Цяпер да горада шлях стаў яшчэ на 9 кіламетраў больш далёкім па аб'язной дарозе, усяго ж да даброт цывілізацыі ехаць 21 кіламетр.

## Пахаванне тыдня

Адзін з самых адыёзных і аўтарытарных лідэраў на постсавецкай прасторы, прэзідэнт Туркменістана Сапармурат Ніязаў памёр ночку на 67-годзе жыцця. Туркменбашы, пажыццёвы правіцель гэтай азіяцкай краіны, меў праблемы з сэрцам і шошу з жыцця па іншых крыніцах яшчэ тры дні назад да афіцыйнага паведамлення. Пры жыцці ідалу гэтага народа паставілі дзесяткі помнікаў, нават некалькі месяцаў календара перайменавалі ў яго гонар. Ён быў усемагутным кіраўніком, не цярпеў нават малейшай нязгоды з сабой, а памёр, як усе тыраны. З гэтай нагоды ў Туркменістане аб'явілі жалобу на 7 дзён, а ў багатай сыравінай краіне разгарнулася жорсткая барацьба за ўладу, бо адыёзны лідэр не пакінуў сабе пераемніка і жадаў яшчэ доўга кіраваць краінай.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Самы высокі ўзровень беспрацоўя – ў Віцебскай вобласці

**Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, на пачатак снежня самы высокі ўзровень беспрацоўя — 1,6% ад эканамічна актыўнага насельніцтва — быў адзначаны ў Віцебскай вобласці. Самы нізкі ўзровень — 0,5% — у Мінску.**

Сярэдні ўзровень беспрацоўя па краіне склаў 1,2% — гэта на 0,4% менш за аналагічны леташні пазказчык.

У органах дзяржаўнай службы занятасці на канец лістапада 2006 года было зарэгістравана 52,6 тыс. чалавек, што на 24,1% менш, чым у лістападзе 2005. Па дапамогу ў працаўладкаванні ў службы занятасці звярнулася 289 тыс. грамадзян, з якіх 65% прызнаны беспрацоўнымі.

Працаўладкавана за гэты перыяд 175 тыс. чалавек, у тым ліку 124 тыс. беспрацоўных.

Да грамадскіх работ за 11 месяцаў года было прыцягнута 103 тыс. чалавек, у тым ліку 61 тыс. беспрацоўных. Сярэдні памер дапамогі на аднаго беспрацоўнага ў лістападзе складаў 41 тыс. рублёў.

*Таццяна ДАРАШЧОНАК, БелаПАН.*

*Касцёл у вёсцы Ураджайнае (Зашчэсле) Глыбоцкага раёна. Першая каталіцкая капліца ў гэтай вёсцы была ўзведзена ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя і адносілася да Докшыцкай парафіі. У 1927 годзе была ўтворана асобная каталіцкая парафія Зашчэсле, да якой адносіліся таксама капліца ў Замошшы і касцёл у Крулеўшчыне. Святыня ў Зашчэслі была адноўлена ў 1990-я гады айцамі-капуцынамі з Докшыц і адносіцца да Докшыцкага дэканата.*

*Фота Дзяніса Салаша, фотаэнцыклапедыя "Нашы касцёлы"*



# У Віцебскай вобласці сёлета прыцягнута да крымінальнай адказнасці 36 службовых асоб і распачата 13 крымінальных справаў, звязаных з абаротам наркотыкаў

**У 2006 годзе ў Віцебскай вобласці прыцягнута да крымінальнай адказнасці 36 службовых асоб. Пра гэта паведамляе Упраўленне КДБ па Віцебскай вобласці.**

У прыватнасці, на сем гадоў пазбаўлення волі асуджаны былы дырэктар Дырэкцыі паркаў культуры і адпачынку Віцебска. «На яго рахунку — крадзеж дзяржаўнай уласнасці ў буйным памеры, службовая халатнасць, злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Урон, які ён нанёс прадпрыемству, перавышае 45 мільёнаў рублёў», — гаворыцца ў прэс-рэлізе УКДБ.

Сёлета УКДБ па Віцебскай вобласці распачало таксама 13 крымінальных справаў, звязаных з незаконным абаротам наркатычных сродкаў. Да прыкладу, у лістападзе пры збыце наркатычнага рэчыва быў затрыманы жыхар Наваполацка. У яго знайшлі моцнадзейны сінтэтычны наркотык, 1 грам якога па сіле ўздзеяння роўны 1 кілаграму гераіна.

Сёлета супрацоўнікі дзяржбяспекі вобласці прадухілілі нанясенне ўрону беларускім прамысловым аб'ектам на суму больш за 9,7 мільярда рублёў. У даход дзяржавы канфіскавана 490 мільёнаў рублёў, інфармуе прэс-група УКДБ па Віцебскай вобласці.

*Таццяна ЧАБАТАРОВА, БелаПАН*

# Бяруць хабар...

**Падчас правядзення праверак у лясгасах краіны органы пракуратуры выявілі прыкладна 50 злачынстваў карупцыйнай скіраванасці. Пра гэта 20 снежня паведамілі ў праграме «Панарама» Першага тэлеканала. У асноўным гэта крадзеж маёмасці, хабар за спрыяльнае вырашэнне пытанняў па высечцы, нарыхтоўцы лесу і водпуску піламатэрыялаў, а таксама службовыя падлогі.**

Зараз расследуюцца справы, звязаныя з незаконнай выдачай пазыкі на прадпрыемстве пабочным асобам і тратай чыноўнікам сродкаў інавацыйнага фонду на будаўніцтва ўласнай кватэры. У выніку гэтых махінацый, як паведаміла «Панарама», Міністэрства лясной гаспадаркі страціла 45 млн. рублёў.

Паводле слоў прадстаўніка рэспубліканскай пракуратуры, трывогу выклікае павелічэнне колькасці ў сістэме Міністэрства лясной гаспадаркі фактаў атрымання хабару службовымі асобамі лясгасаў. У 2006 годзе да крымінальнай адказнасці за такія злачынствы былі прыцягнуты службовыя асобы Іўеўскага, Крупскага, Віцебскага, Стаўбцоўскага доследнага і іншых лясгасаў.

*Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.*

**Раіса Шантар** пра Я. Драздовіча:

# «Чалавек ён быў добры, грошы за работу не браў і вельмі любіў грыбную паліўку»

**14-ты пленэр на радзіме Язэпа Драздовіча, які прысвечаны ўшанаванню памяці славутага беларускага мастака Напалеона Орды**



**Напалеон Орда нарадзіўся 11 лютага 1807 г. у маёнтку Варацэвічы, што стаяў на ўскраіне вёскі з такой жа назвай непадалёку ад Пінска.**

**Бог шчодра надзяліў яго талентамі. Ён быў мастаком, кампазітарам, піяністам, педагогам. І праз гэтыя таленты нястомна дасканаліў сваю душу – тое самае патаемнае, дзеля спраўджвання якога ўсе мы прыходзім на зямлю. Бацькі назвалі яго Напалеонам, і ён, як той ваяр, адваёўваў у нябыту найпрыгажэйшыя куточкі Бацькаўшчыны – яе касцёлы, цэрквы, кляштары, замкі, палацы, сядзібы, каб падарыць нашчадкам тую Беларусь, пра якую без яго пэндзля, без яго душы і сэрца мы маглі б ніколі не даведацца. Ён стварaў мастацкі вобраз Радзімы.**

***На 100-тысячнай беларускай купюры адлюстравана работа Н. Орды «Нясвіжскі замак Радзівілаў».***



**З уступным словам на адкрыцці пленэра, які прысвечаны ўшанаванню памяці беларускага мастака Напалеона Орды, прамаўляе арганізатар мерапрыемства Ада Эльеўна Райчонак (в. Германавічы, Шаркоўшчынскі раён).** *Фота Уладзіміра Скрабатуна*

**Уладзімір Скрабатун**

Напярэдадні Каляды, 24 снежня, а 14-ай гадзіне, блізу 40 чалавек прысутнічала на вясковым цвінтары, што паміж Ліплянамі і Малымі Давыдкамі. Сабраліся мясцовыя жыхары, прыехалі пісьменнікі, журналісты і мастакі з усяе Беларусі. У гэты дзень адкрыўся чарговы 14-ты пленэр на радзіме Язэпа Драздовіча, які быў прысвечаны ўшанаванню памяці слыннага беларускага мастака Напалеона Орды.

Ля помніка з уступным словам выступіла арганізатар пленэру Ада Эльеўна Райчонак, маці маладога і таленавітага мастака Міхася Райчонка, які, на вялікі жаль, заўчасна пакінуў гэты свет. Да магілы Язэпа Драздовіча яна ўсклала бел-чырвона-белы букет.

Шмат хто браў слова. Мастак Алесь Марачкін, у прыватнасці, сказаў:

– Гадоў ужо колькі таму – не памятаю – мо дваццаць, распачалі мы пошукі магілы Язэпа Драздовіча. Мы знайшлі гэты зарослы бугарок, дзе не было аніякага знаку. Мы распытвалі мясцовых жыхароў, корпаліся ў архівах. Даведаліся, што памёр ён у 1954 годзе ў Падсвільскай бальніцы. Хавалі яго як нейкага небараку. Не было ў ва што апрануць. Сярод людзей ён выглядаў дзіваком, шмат хто з яго смяяўся. Але шмат хто і паважаў. І ніхто тады не верыў і не ведаў, што гэты чалавек зойме найвялікшае месца ў гісторыі нашага выяўленчага мастацтва. Дзеля чаго я гэта кажу? Вось, зусім нядаўна, у Нацыянальным музеі адкрылася новая экспазіцыя, дзе прадстаўленыя творы вядомых мастакоў. Не будзем тут зараз ацэньваць хто з іх найбольш лепшы ці горшы. Але, творчасць Язэпа Драздовіча там прадстаўленая вельмі значна. Гэта — тры творы з яго касмічных сюжэтаў. Некаторыя мастакі прадстаўленыя толькі адным творам. Шкада толькі, не вядома з якіх меркаванняў, там не прадстаўлены вядомы яго твор "Пагоня Ярылы". Такім чынам, я засведчу вам, што імя Драздовіча ўваходзіць у Вечнасць. Калі яго ўжо сёння друкуюць у маскоўскіх часопісах, калі зараз ходзяць па яго сцежках абы знайсці твор Язэпа Драздовіча, каб яго перапрадаць, каб здаць у нейкі антыкварны магазін... Тое сталася і дзякуючы нашым намаганням. Паводле майго эскізу скульптар Шатэрнік зрабіў гэты помнік. Шмат зрабіла для ўшанавання памяці Язэпа Драздовіча і Ада Эльеўна Райчонак.

Тое, што некалі казала Ада Эльеўна: "Як бы гэта ўзнесці ўзровень нашага Язэпа Драздовіча да ўзроўню Марка Шагала", то можна сказаць, што гэта ўжо адбылося, яны побач. У тым жа Нацыянальным музеі ёсць партрэт Марка Шагала работы мастака Пэна, побач — вісяць карціны Язэпа Драздовіча. Імя Язэпа Драздовіча – не пабаюся гэтых слоў – упісана залатымі літарамі ў гісторыю нашага выяўленчага мастацтва.

Мастак Яўген Шатохін згадаў пра трагічны лёс Язэпа Драздовіча.

-- Вельмі цяжкі лёс быў у Язэпа Драздовіча. Вельмі цяжкі... Як ён жыў, як ён быў пахаваны, сведчыць аб тым, што ніхто не быў заклапочаны ў яго лёсе. Да гэтага яго давяла тая ўлада. А 1956 год, калі памёр Язэп Драздовіч, быў самы яе росквіт. Ён у адначассе стаў жабраком. Язэп Драздовіч жыў пры розных уладах. Да 1939 года тут была іншая краіна. Мы ведаем, якім ён быў прыстойным чалавекам там. Інтэлігентам. Працаваў у Вільні. Супрацоўнічаў з рознымі часопісамі, афармляў кнігі. Прыйшла, змянілася новая ўлада, і чалавек у адначассе стаў жабраком. Гэта ж трэба, да якога жалоснага стану давяла вядомага чалавека тагачасная дзяржава... І сённяшні час не самы лепшы для сапраўднага творцы. Я жадаю ўсім пазбегнуць такога ж лёсу.

Шмат каго кранула прамова мясцовай жыхаркі Раісы Фёдараўны Шантар, асабліва запомніліся словы: "Чалавек ён быў добры. Хадзіў па хатах маляваў карціны. За работу грошы не браў... Але вельмі ж любіў грыбную паліўку..."

Яе аднавяскоўка Галіна Міхайлаўна Шантар адзначыла: шмат хто называўся сваяком Язэпа Драздовіча, але якія гэта былі сваякі, што цураліся яго. Усе яго тут памятаюць. Але радня яго за радню не лічыла. Памёр чалавек -- загарнулі ў прастыню і пахавалі...»

Базавы лагер тыднёвага пленэру размясціўся ў вёсцы Валодзькава, якая знаходзіцца на беразе Акунёўскага возера. Беларускіх мастакоў чакаюць захапляльныя вандроўкі па сцяжынках Язэпа Драздовіча. Гэта – Лужкі з файным касцёлам Св. Міхала Арханёла, Гарадзец -- з палацам і паркам графа Плятэра, ракой Мнютай, дзе стаіць старадаўні млын, з Германавічамі, дзе ў колішнім палацы Шырынаў знаходзіцца музей імя Язэпа Драздовіча, тут і старадаўні касцёл над ракой Дзісной, а на вясковых могілках пахаваная маці Язэпа Драздовіча -- Юзэфа. Надмагільны помнік з беларускім надпісам лацінскімі літарамі, зроблены ўласнаручна сынам – Язэпам Драздовічам.

Зрэшты, і само Валодзькава цікавае тым, што побач быў панскі двор Акунёва, дзе нарадзіўся аўтар слыннага твора «Знахар» Тадэвуш Далэнга-Мастовіч.



**Прысутныя з вялікай цікавасцю слухаюць аповяд Раісы Фёдараўны Шантар, мясцовай жыхаркі, пра апошнія гады жыцця Язэпа Драздовіча.** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*



**Шматлікая грамада, якая прыехала з розных куткоў Беларусі, накіравалася 24 снежня на вясковы цвінтар, што ля вёскі Малыя Давыдкі да помніка Язэпу Драздовічу** (здымак справа). *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

Да 600-годдзя Докшыцаў

# Докшыцы

## У складзе Расійскай імперыі

**Кастусь Шыталь,**
*г. Докшыцы*

**Працяг.**
**Пачатак у №51 (351)**

Рэч Паспалітая паступова прыходзіла ў заняпад, "дзякуючы" існаванню "ліберум вета", якое практычна паставіла магутную калісь дзяржаву ў сітуацыю анархіі і бязладдзя. Спробы некаторых палітычных дзеячоў ўратаваць велізарную дзяржаву "ад мора да мора" не прынеслі выніку. Апошняя спроба зрабіць гэта – паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, пацярпела паражэнне. Беларусы на доўгі час трапілі пад уладу Расіі.

### Докшыцы пасля далучэння да Расіі

Расійцы пачалі ўводзіць новы адміністрацыйны падзел захопленых зямель. Была ўтворана Мінская губерня, якая падзялялася на паветы. Цэнтрам аднаго з паветаў у 1793 годзе сталі Докшыцы. Да Докшыцкага павета адносіліся мястэчкі Беразіно, Гайна, Даўгінава, Ілля, Лагойск, Плешчаніцы. Чаму менавіта Докшыцы сталі цэнтрам павета? Верагодна, на гэта паўплывала даволі зручнае месцазнаходжанне. Праз Докшыцы праходзіў паштовы тракт, які звязваў Мінск з Пецярбургам, тут была і паштовая станцыя. У 1795 годзе расійскія ўлады надалі Докшыцам статус горада. Тут быў створаны магістрат. Магістрат, мабыць, меў спачатку свой будынак, знішчаны ў часе вайны 1812 года. Ён так і не быў адноўлены, а паседжанні даводзілася праводзіць у наёмных памяшканнях. У магістраце Докшыц было два бургамістры: ад хрысціянскага і яўрэйскага насельніцтва.

22 студзеня 1796 года Докшыцам быў нададзены герб. Вось афіцыйнае апісанне герба: *"У верхняй частцы шчыта герб Мінскі. У ніжнім у зялёным полі ўнізе шчыта відаць два натуральнага колеру ўзгоркі адпаведна месца знаходжання гэтай акругі, якая вызначаецца сваімі ўзвышшамі, з гэтых узгоркаў з сасудаў выліваюцца дзве крыніцы, азначаныя серабром, і складаюць рэкі, якія размешчаны ў бок шчыта, азначаючы, што каля гэтых месцаў бяруць свой пачатак дзве вядомыя ў тым краі рэкі Вілія і Бярэзіна, якія садзейнічаюць гандлю з берагамі Чорнага і Балтыйскага мораў."* Ды нядоўга Докшыцам давялося быць цэнтрам павету. У 1797 годзе павет быў скасаваны, былы павятовы цэнтр стаў пазаштатным горадам Барысаўскага павета. Час ад часу нават у афіцыйных дакументах XIX стагоддзя Докшыцы называлі па-старому мястэчкам.



План Докшыц 1790-х гг.

Тэрыторыя скасаванага Докшыцкага павета была падзелена паміж Вілейскім і Барысаўскім паветамі. Мяжа паветаў тады аддзяліла цэнтр Докшыц ад Докшыцкай Слабады. Толькі ў 1830-х гг. гэтыя дзве часткі Докшыц былі аб'яднаныя. А вось маёнтак Докшыцы, які належаў Мікульскім, так і застаўся ў складзе Вілейскага павета. У 1842 годзе Вілейскі павет адышоў да Віленскай губерні. Мяжа губерняў праходзіла каля самага горада. У Порплішчанскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні ў XIX стагоддзі існавалі сельскія грамады Докшыцы-Барсукі і Докшыцы-Падомхі.

### Насельніцтва Докшыц

У 1786 годзе, за шэсць год да ўваходжання ў склад Расіі, у правабярэжнай частцы Докшыц пражывала 411 чалавек. У 1795 годзе ў Докшыцах жыло 500 чалавек. Тады яшчэ большасць насельніцтва горада складалі хрысціяне. Паводле надпісу на плане Докшыц, складзеным расійскай адміністрацыяй ў апошнія гады XVIII стагоддзя, габрэяў было 48 жанчын і 37 мужчын – усяго 85 чалавек. Аднак у 1794 годзе Кацярына II прыняла закон аб "мяжы габрэйскай аселасці", які забараняў габрэям сяліцца па-за межамі гарадоў і мястэчак. Габрэі сталі перасяляцца ў гарады. Такім чынам усяго за некалькі гадоў колькасць жыхароў Докшыц павялічылася на некалькі соцень чалавек.

У 1800 годзе насельніцтва абодвух частак Докшыц складала 1118 чалавек. Тады ў Докшыцах было 152 двары, з якіх – 65 хрысціянскіх і 89 габрэйскіх. Пры гэтым большасць габрэяў жылі ў правабярэжжы, дзе яны засялялі 71 двор. Пераважная частка габрэяў жылі на вуліцы Дзікай, сённяшняй Інтэрнацыянальнай. Габрэі ўжо ў канцы XVIII стагоддзя стварылі тут сваю школу (паводле іншых звестак, нават дзве). Ужо ў 1865 годзе ў Докшыцах былі чатыры іўдзейскія малітоўныя дамы.

Расійска-французская вайна 1812 года выклікала змяншэнне колькасці насельніцтва. У 1821 годзе ў Докшыцах было 180 двароў. У 1825 годзе насельніцтва Докшыц складала 898 чалавек. Напачатку 1830-х гадоў да Докшыц далучана Докшыцкая Слабада. Да 1833 года колькасць насельніцтва правабярэжнай часткі горада ўзрасла да 891 чалавека, у 1835 годзе было ўжо 916 чалавек, з якіх 686 – яўрэі, і 196 двароў. У 1851 годзе колькасць насельніцтва горада склала ўжо 1624 чалавекі. У 1860 годзе ў Докшыцах (без Слабады) пражывалі 1384 жыхары: 309 праваслаўных, 225 католікаў, 790 іўдзеяў. Праз пяць гадоў, у 1865 годзе, колькасць насельніцтва (са Слабадой) склала ўжо 1836 чалавек: 635 праваслаўных, 521 католік, 680 іўдзеяў. Да канца стагоддзя колькасць насельніцтва значна ўзрасла і склала 3642 чалавекі, з іх 2765 габрэяў.



**Кірмаш на гандлёвай плошчы** (зараз плошча Палявога).
*Заўвага: якасць паліграфіі здымка залежыць ад якасці арыгінала.*



**"Пажар у Докшыцах"**, карціна французскага мастака Адама Албрэхта. На ёй адлюстраваны сядзібны дом, што стаяў дзесьці пры вуліцы Полацкай (Горкага).
*Заўвага: якасць паліграфіі здымка залежыць ад якасці арыгінала.*

### Лёс маёнтка Докшыцы

Расійскія ўлады адразу ж пасля свайго прыходу канфіскоўвалі маёнткі, якія належалі Каталіцкаму Касцёлу. Маёнтак Докшыцы капітулы жамойцкага біскупства быў перададзены генерал-маёру расійскай арміі, тайнаму саветніку Васілю Мілашэвічу. Горад Докшыцы праз некалькі гадоў, пасля смерці Мілашэвіча, быў зноў забраны ў казну. Сядзібныя пабудовы знаходзіліся на ўсходняй ускраіне горада, паміж вуліцамі Горкага і 1 Мая. Сядзібны дом адлюстраваны на карціне "Пажар у Докшыцах" 1812 года. Можна меркаваць, што сядзіба знішчана пажарам у 1812 годзе і пасля не аднаўлялася, бо заштатны горад Докшыцы быў забраны ў казну, а некалі вялікі маёнтак Докшыцы распаўся на шэраг дробных маёнткаў.



**Герб павятовага горада Докшыцы часоў Расійскай імперыі**

### Як выглядалі Докшыцы?

У Докшыцах 200 гадоў таму былі часткова забудаваныя сённяшнія вуліцы Савецкая (дзесьці да павароту на Падомхі), Горкага (да месца, дзе сёння крама "Юбілейная"), Пушкіна (да старых могілак, дзе зараз касцёл), Ленінская (да перасячэння з вуліцай Міцкевіча), Інтэрнацыянальная. Па некалькі пабудоў было на вуліцах Ветранай (Гайдара), Татарскай (Дзяржынскага). На галоўнай гандлёвай плошчы (сённяшняй Палявога), стаяў каталіцкі касцёл. За касцёлам была плябанія. Побач на плошчы стаяў адзіны ў Докшыцах мураваны будынак, які захаваўся і сёння ў зменeным выглядзе. Сядзіба, якая належала жамойцкай капітуле, а пазней стала ўласнасцю Мілашэвіча, размяшчалася на ўсход ад цэнтра, пры вуліцы Полацкай (Горкага). На левым баку гэтай вуліцы стаяла ўніяцкая царква. Другі ўніяцкі храм быў на вуліцы Глыбоцкай (Савецкай). На плане горада канца XVIII стагоддзя пазначана і дарога, што ішла пры сённяшняй вуліцы Міцкевіча. Тады ўздоўж яе стаялі гумны местачкоўцаў. У адным з дакументаў 1892 года гэтая вуліца згадваецца як Гуменная лінія.

Калі паглядзець на тапаграфічную карту канца 1860-х гадоў, можна прасачыць, што змянілася ў Докшыцах за першую палову XIX стагоддзя. Пачалі забудоўвацца вуліцы Міцкевіча, Дзяржынскага, 1 Мая і Падгорная. На карце 1916 годзе мы ўжо бачым забудову на вуліцы Піянерскай.

Напачатку XIX стагоддзя ў Докшыцах пэўны час дзейнічала суконная фабрыка, што належала купцу-габрэю Давіду Шапіра. У 1865 годзе ў горадзе меліся мёдаварны і вінакурны заводы. Напрыканцы XIX стагоддзя ў Докшыцах былі вадзяны і паравы млыны, бойня, піваварня габрэя Хаіма Гордана. У 1864 годзе створана народнае вучылішча, для якога на мяжы стагоддзяў быў узведзены двухпавярховы будынак, разлічаны на 200 вучняў.

*Працяг будзе.*

АГіМ інфармуе

# Міграцыйная карта

**Міграцыйная карта адзінага ўзору ўведзена з 1 лістапада на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Міграцыйная карта запаўняецца замежнымі грамадзянамі і асобамі без грамадзянства пры ўездзе ў Рэспубліку Беларусь і Расійскую Федэрацыю з тэрыторыі трэціх краін.**

■ **Д. В. Заяц,** *начальнік АГіМ Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі*

Міграцыйная карта выдаецца загадзя, з такім разлікам, каб выключыць дадатковы час на яе запаўненне. Пры перамяшчэнні адпаведным транспартам дакумент бясплатна атрымліваюць экіпажы паветраных, марскіх і рачных судоў і цягніковыя брыгады, а таксама вадзіцелі – выязджаючы на аўтобусах, адказныя асобы пагранвойск – калі рухаюцца механічнымі транспартнымі сродкамі ці пешшу.

Акрамя таго міграцыйная карта набываецца ў падраздзяленнях па грамадзянству і міграцыі ў наступных выпадках:

■ калі ў перыяд прабывання ў краіне яна страчана ці сапсавана;

■ калі яе няма ўвогуле ці ў ёй адсутнічае адзнака аб уездзе па прычынах, якія не залежаць ад замежнага грамадзяніна.

Пасля заявы пра гэта ў тэрытарыяльны орган унутраных спраў выдаецца дублікат з неабходным штампам.

Міграцыйную карту не запаўняюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

Бланк карты складаецца з двух частак: "А" і "Б". Замежны грамадзянін абавязаны запоўніць абедзве, падпісаць і прад'явіць па патрабаванню, або калі праходзіць працэдуру рэгістрацыі. Для тых, хто прыбывае ў краіну прапануецца ў рускай ці лацінскай транслітарацыі разборліва, друкаванымі літарамі, без памарак і выпраўленняў, у строга адведзеных раздзелах і графах указаць прозвішча, імя і імя па бацьку, дату нараджэння (число, месяц, год), пол, грамадзянства, дакумент, які засведчвае асобу, мэту візіту, нумар візы, звесткі пра бок, які запрашае, тэрмін прабывання. Гэтыя дзве часткі падпісваюцца замежным грамадзянінам з указаннем даты запаўнення. Частка "А" застаецца ў пагранічніка, частка "Б", з адзнакай аб уездзе, захоўваецца ў грамадзяніна на працягу ўсяго прабывання ў краіне.

Замежны грамадзянін на працягу трох рабочых дзён з моманту прыбыцця ў Беларусь абавязаны прайсці працэдуру рэгістрацыі ў органах ўнутраных спраў, дзе на адваротным баку часткі "Б" міграцыйнай карткі ставіцца адпаведная адзнака.

Пераканаўча раім не спазняцца з рэгістрацыяй, таму што "згубіцца" з увядзеннем міграцыйнай карты не ўдасца, таксама не трэба затрымлівацца і далей за тэрмін, які ўказаны ў карце. Парушальнік рызыкуе займець статус нелегала і быць дэпартаваным. Калі парадак прабывання замежным грамадзянам не парушаецца, яму нічога не перашкаджае стаць частым госцем Рэспублікі Беларусь.

"А" (Въезд/Arrival)

| Республика Беларусь<br>Republic of Belarus | | Российская Федерация<br>Russian Federation |
|---|---|---|
| Миграционная карта<br>Migration Card | Серия/<br>Serial<br>№ | РБ |

Фамилия/Surname (Family name)

Имя/Given name(s)

Отчество/Patronymic

Дата рождения/Date of birth: День/Day; Месяц/Month; Год/Year

Пол/Sex: Муж/Male; Жен./Female

Гражданство/Nationality

Документ, удостоверяющий личность/Passport or other ID

Номер визы/Visa number

Цель визита (нужное подчеркнуть)/Purpose of travel (to be underlined): Служебный/Official, Туризм/Tourism, Коммерческий/Business, Учёба/Education, Работа/Employment, Частный/Private, Транзит/Transit

Сведения о приглашающей стороне (наименование юридического лица, фамилия, имя (отчество) физического лица), населенный пункт/Name of host person or company, locality:

Срок пребывания/Duration of stay: С/From: До/To:

Подпись/Signature:

Служебные отметки/For official use only

| Въезд в Республику Беларусь / Российскую Федерацию / Date of arrival in the Republic of Belarus/ Russian Federation | Выезд из Республики Беларусь / Российской Федерации / Date of departure from the Republic of Belarus/Russian Federation |
|---|---|



МНС інфармуе

# Значная колькасць пажараў і ўзгаранняў адбываецца на Навагоднія святы

**На працягу многіх гадоў людзі з вялікай урачыстасцю праводзяць і сустракаюць Новы год. Але як паказаў аналіз, які быў праведзены на працягу шэрагу апошніх гадоў, значная колькасць пажараў і ўзгаранняў адбываецца на Навагоднія святы. І каб не здарылася бяды, неабходна ўдзяліць сур'ёзную ўвагу наступным мерам пажарнай бяспекі пры правядзенні святаў Навагодняй ёлкі.**

■ **М. В. Міхалевіч**, *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы*

■ Асобы, адказныя за пажарную бяспеку пры наладжванні святаў, абавязаны паведаміць пра тэрмін правядзення свята не пазней, **чым за тры дні** да правядзення мерапрыемства, а таксама прадставіць у інспекцыю дзяржаўнага пажарнага нагляду спісы прозвішчаў і колькасць дзяцей, выпіску з загада, копіі спісаў інструктажу з адказнымі асобамі.

■ У час правядзення масавых мерапрыемстваў з дзецьмі **павінны неадлучна** знаходзіцца дзяжурныя выхавальнікі, класныя кіраўнікі ці настаўнікі. Гэтыя асобы павінны прайсці інструктаж аб мерах пажарнай бяспекі, азнаёміцца з планам эвакуацыі з будынка і правілах эвакуацыі дзяцей у выпадку пажару.

■ Усталяванне ёлкі без дазволу органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду не дапускаецца.

■ У будынках VI-VIII ступені вогнястойкасці па СНБ 2.02.-1, правядзенне святаў дапускаецца толькі на першым паверсе.

■ Памяшканне, у якім усталёўваецца ёлка, павінна мець не менш за два выхады непасрэдна на вуліцу ці на лесвічныя клеткі.

■ Ёлку не дапускаецца ўсталёўваць ля праходаў і ля выхадаў. Яна павінна знаходзіцца на ўстойлівай падстаўцы. Галінкі ёлкі павінны знаходзіцца на адлегласці не менш за 1 метр ад сцен і столі. Пры адсутнасці ва ўстанове электрычнага асвятлення гульні і танцы павінны праводзіцца толькі ў дзённы час. Колькасць прысутных ў памяшканнях, якія прыстасаваны для правядзення навагодніх святаў, устанаўліваецца з разліку 0,75 квадратнага метра плошчы падлогі на аднаго чалавека. Запаўненне памяшканняў людзьмі звыш усталяванай нормы не дапускаецца.

■ Афармленне ілюмінацый ёлкі павінна праводзіцца **спецыялістамі**, якія маюць адпаведную кваліфікацыю.

■ Ілюмінацыю трэба праводзіць праз паніжаючы трансфарматар з напружаннем на нізкім баку не больш за 24 В.

■ Ілюмінацыя ёлкі павінна быць зманціравана з выкананнем правілаў ПЭУ.

■ Пры выкарыстанні электрычнай асвятляльнай сеткі без паніжаючага трансфарматара на ёлцы могуць быць выкарыстаны гірлянды толькі з паслядоўным уключэннем лямпачак напружаннем да 12В, магутнасць лямпачак не павінна перавышаць 25Вт. Электраправады, якія сілкуюць лямпачкі ёлачнага асвятлення, павінны быць з меднай жылай. Падключэнне гірлянды да сеткі павінна рабіцца толькі з дапамогай штэпсельных злучэнняў.

■ Пры ўзнікненні няспраўнасці ў ёлачным асвятленні (нагрэў праводоў, мігценне лямпачак і іншыя няспраўнасці) ілюмінацыя павінна быць адключана, і нельга карыстацца ёй да выпраўлення няспраўнасці.

■ Удзел у святе ёлкі дзяцей і дарослых, якія апрануты ў касцюмы з ваты, паперы, марлі і іншых гаручых матэрыялаў, якія не апрацаваныя вогнеахоўнымі саставамі, не дапускаецца.

■ На ўсіх прадстаўленнях павінны прысутнічаць прадстаўнікі адміністрацыі ўстановы.

**Пры афармленні ёлкі не дапускаецца:**

■ выкарыстоўваць для афармлення цэлулоідныя і іншыя цацкі і ўпрыгожванні, якія лёгка загараюцца;

■ прымяняць свечкі для ілюмінацыі ёлкі;

■ афармляць падстаўку і ўпрыгожваць галінкі ватай і цацкамі з яе, якія не апрацаваныя вогнеахоўным саставам;

■ сыпаць на ёлку берталетаву соль і ладзіць светлавыя эфекты з прымяненнем хімічных і іншых рэчываў, бенгальскіх агнёў, якія здольны выклікаць загаранне;

■ адказнымі асобамі за супрацьпажарную бяспеку пры ўсталёўванні свята навагодняй ёлкі з'яўляюцца кіраўнікі ўстановы ці асобы, якія прызначаны загадам кіраўніка, якія павінны знаходзіцца ва ўстанове ў час правядзення свята.

Кіраўнікам (адказным асобам) – забяспечыць памяшканне, дзе ўсталявана ёлка, нарматыўнай колькасцю першасных сродкаў пажаратушэння, а дзяжурны персанал марлевымі павязкамі і спраўнымі электрычнымі ліхтарамі, а таксама прадугледзіць ўсе мерапрыемствы, якія накіраваныя на захаванне пажарнай бяспекі і ахову жыцця, здароўя людзей ад надзвычайных сітуацый у адпаведнасці з нарматыўна-прававымі актамі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

# Новы 2007 год: Што падарыць?

**Новы год – самае светлае і выдатнае свята, якое моцна асацыюецца з чараўніцтвам. Да таго ж многія прывыклі лічыць Новы год кропкай адліку – як дзень нараджэння.**

Але гэтае выдатнае свята не абмяжоўваецца толькі зялёнымі ёлкамі, якія вы з ганарлівым выглядам і абсалютна шчаслівай усмешкай цягнеце на сабе дадому; Дзедам Марозам з барадой з ваты і Снягуркамі.

Для кожнага Новы год – гэта казка, ажыццяўленне мары. На Новы год мы варожым, загадваем жаданні, стукаемся куфлямі з шампанскім пад звон гадзінніка.

Але акрамя атмасферы чараўніцтва і свята мы чакаем падарункаў.

Вельмі важна падабраць **ТОЙ САМЫ ПАДАРУНАК**. Асабліва для каханых людзей і дарагіх сэрцу сяброў і родных.

Прызнанні ў каханні ў якасці падарунка гэтак жа актуальныя на гэтае свята, як і на Дзень святога Валянціна. Чаму б не папесціць каханага чалавека вытанчанай вячэрай або падараваць пярсцёнак у знак сваіх пачуццяў?

Ад таго, наколькі правільна мы падберым падарунак, часта залежыць настрой нашых каханых пад час Навагодняй ночы. А таксама ў колькі вы ляжаце спаць: адразу пасля дванаццаці, ледзь паспеўшы стукнуцца куфлямі з шампанскім, або толькі пад раніцу, стомленыя і амаль без сіл, але вельмі, вельмі шчаслівыя!

### Неспадзеўкі для дзяўчат

Дарагія мужчыны, хутчэй за ўсё, вы ўжо даўно не верыце ў Дзеда Мароза... Але хаця б зрабіце выгляд, што перад вамі – сапраўдная Снягурка, Фея, чараўніца і прыгажуня. Гэта значыць, вашая каханая і ненаглядная.

Дзяўчаты вельмі прывязаныя да традыцый, таму што яны больш рамантычныя, чым хлопцы.

Абавязкова сплаўце куды-небудзь сваіх бацькоў або хаця б зачыніцеся ў сваім пакоі. Ёлку прынясіце самі – бо яна цяжкая і калючая. І ў вузкім ліфце для вашай дзяўчыны, хутчэй за ўсё, проста не будзе месца. Або яна будзе ўся ў зялёных іголках.

Але прыбярыце ёлку разам. Або, калі жадаеце зрабіць неспадзеўку, праявіце ініцыятыву і ўпрыгожце яе самі. Для гэтай мэты актуальна набыць новыя цацкі. Яны выглядаюць нашмат ярчэй і святочней, чым стары гном з адарванай галавой або Дзед Мароз вашага дзяцінства з патрэсканай фарбай. Не забудзьцеся пра «дожджык» і іншыя гірлянды. І, вядома ж, лямпачкі.

А як прыемна будзе вашай дзяўчыне знайсці на галінцы залаты ланцужок! А калі яшчэ і з пярсцёнкам...

Схавайце падарунак пад ёлку. Не прымушайце каханую чакаць сюрпрыза ўсю ноч, дазвольце ёй развярнуць падарунак пасля поўначы.

Калі між вамі яшчэ няма блізкіх дачыненняў, лепш не дарыце ёй ніжнюю бялізну. Раптам не адгадаеце з памерам? У падарунак можна змясціць паштоўку з малюнкам навагодняй тэматыкі, толькі не віншуйце дзяўчыну шырока вядомымі вершамі з Інтэрнэту. Лепш напішыце пару радкоў сваёй рукой, але ад душы.

Заляцайцеся да сваёй дзяўчыны пад час святочнай вячэры. Незабыўны настрой стварыць лямпа з водарам або прыгожыя свечкі.

Можна прагуляцца па вуліцы, палюбавацца феерверкамі.

Або, калі яна стамілася або змёрзла, лепш вярнуцца і легчы ў ложак. Ёй будуць сніцца прыгожыя, казачныя сны. Асабліва, калі яна засне побач з вамі.

### Падарункі для мужчын

Калі вы, дарагія жанчыны, сапраўды не ведаеце памераў сваіх мужчын, то лепш не дарыць ім прадметаў адзежы. Хаця можна прыпаднесці сэксуальныя плаўкі або мужчынскую туалетную ваду з водарам, які кружыць вам галаву. Калі ў вас ёсць магчымасць хоць трохі прыблізіць мужчыну да вашага ідэялу – не губляйце часу!

Калі атрымаецца, намякніце каханаму накont наведвання салона прыгажосці і цырульніка.

Традыцыйна мужчыны дораць жанчынам больш дарагія падарункі. І гэта правільна. Важным жаночым гасцінцам будзе паштоўка з надпісам, які кранае за сэрца і... лёгкія эратычныя планы на Навагоднее свята.

Кожная жанчына пад Новы год павінна пастарацца выглядаць на ўсе сто. Стаць для яго выдатнай феяй-снягуркай.

А калі нават мужчыны ў вас няма – будзьце прыгожай для сябе.

Можа быць, шпацыруючы ў Навагоднюю ноч, вы знойдзеце свайго наканаванага... пад якой-небудзь ёлкай.



## Беларускі экіпаж завяршае падрыхтоўку да дэбюту ў ралі-рэйдзе «Дакар-2007»



**Беларускі экіпаж у складзе пілота Сяргея Шкеля і штурмана Аляксандра Інуса завяршае падрыхтоўку да дэбютнага ўдзелу ў самым вядомым усясветным пазадарожным ралі «Лісабон—Дакар». Міжнародны ралі-рэйд «Дакар-2007» стартуе са сталіцы Партугаліі Лісабона 6 студзеня. За два тыдні ўдзельнікі перасякуць Іспанію, Марока, Маўрытанію, Малі і 21 студзеня фінішуюць у сталіцы Сенегала Дакары на беразе Ружовага возера.**

Як паведаміў 20 снежня на прэс-канферэнцыі ў Мінску дырэктар беларускай каманды Алег Хапануеў, удзел беларускага экіпажа ў ралі «Дакар» можна лічыць прарывам для айчыннага аўтаспорту. Зараз каманда завяршае падрыхтоўку і ў асноўным працуе над фізічным і маральна-псіхалагічным станам.

У сваю чаргу пілот каманды Сяргей Шкель паведаміў, што прадстаўнікі Беларусі выступяць у ралі-рэйдзе на гоначным пазадарожным аўтамабілі «Оскар», спецыяльна зробленым латвійскімі канструктарамі для ўдзелу ў ралі-рэйдах. Машына, у якой часткова выкарыстоўваюцца запчасткі арыгінальных аўтамабіляў, мае рухавік «БМВ» аб'ёмам 4,4 літра, сярэдняя хуткасць па бездарожжы — 150—160 км/гадз, расход паліва — 50—60 літраў на 100 км. Усе дэталі, выкарыстаныя ў аўтамабілі, зведалі сур'ёзную дапрацоўку і змены.

Адметнай асаблівасцю гэтага марафона будзе траса — больш раўнамерная па складанасці, але аднолькава цяжкая на ўсіх этапах. Агульная працягласць дыстанцыі складзе 8.696 км, з іх 5.010 км прыпадаюць на спецучасткі. Па задуме арганізатараў, самым цяжкім адрэзкам павінен стаць прамежак паміж гарадамі Тан-Тан (Марока) і Зуэрат (Маўрытанія) працягласцю крыху больш за 800 км, які гоншчыкі павінны прайсці за суткі.

Паводле слоў С.Шкеля, усяго па трасе будуць рухацца прыкладна 800 тэхнічных сродкаў з 48 краін.

Тактычна прадстаўнікі Беларусі збіраюцца ў першыя «еўрапейскія» дні ралі-рэйду не рызыкаваць, а асноўную барацьбу распачаць прыкладна з чацвёртага дня гонкі, калі яна пойдзе праз пяскі пустыні і горную мясцовасць.

Наконт прагнозаў свайго выступлення на «Дакары-2007» Сяргей Шкель зазначыў, што ў дэбютнай гонцы беларускі экіпаж не ставіць перад сабою мэты дамагчыся самых высокіх вынікаў. Гонка будзе вельмі цяжкая, прадбачыць немагчыма нічога, і галоўнае ў гэтым спаборніцтве не сысці з дыстанцыі раней, чым яна завершыцца, падкрэсліў пілот.

Варта зазначыць, што ўдзел у ралі-рэйдзе «Дакар-2007» патрабуе немалых фінансавых затрат. Так, кошт машыны дасягае 240 тысяч еўра, а бюджэт каманды — 500 тысяч еўра. Асноўную частку расходаў бяруць на сябе замежныя спонсары. Беларускі экіпаж выступіць на ралі-рэйдзе «Дакар-2007» у складзе латвійскай каманды «Riga Rally-Raid Team», але пад беларускім сцягам.

*Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.*





Іўка Зінаідзе Васільеўне

(вёска Шылагор'е)

Дарагая матуля і бабуля! Ад усяго сэрца віншуем з Днём нараджэння, з 87-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, добрага настрою і ўсяго самага найлепшага ў тваім жыцці!

**Таксама віншуем са старажытным нашым святам Калядамі і з Новым годам!**

Хай Усявышні падаруе табе яшчэ многа год добрага і шчаслівага жыцця!

*З вялікай пашанай і ўдзячнасцю за ўсё, твой сын Павел і ўнук Сяргей.*

